ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

№ 9(5191)
Аўторак, 23 студзеня 2001 года

*Выходзіць з 20 снежня 1945 года*

*Кошт у розніцу — 47 руб.*

Адукацыйная палітыка

Ігар КАТЛЯРОЎ:

## “Мы заўсёды будзем падтрымліваць адукацыю”

***У парламенце нашай краіны адбылася сустрэча членаў Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу з міністрам адукацыі В.І.Стражавым і яго намеснікамі. У сустрэчы таксама прынялі ўдзел сенатары, якія займаюцца адукацыйнымі пытаннямі. Тэму абмену думкамі вызначылі так: “Сістэма адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь і яе функцыянаванне ў сучасных умовах”.***

ГЭТУЮ сустрэчу можна назваць азнаямленчай, таму што гэта была першая сустрэча дэпутатаў новага складу адукацыйнай камісіі Палаты прадстаўнікоў парламента з кіраўніцтвам Міністэрства адукацыі: толькі старшыня камісіі І.В.Катляроў раней быў дэпутатам вышэйшага заканадаўчага органа краіны, а астатнія дэпутаты выбраны ўпершыню. Звяртаючыся да ўдзельнікаў сустрэчы, Ігар Катляроў запрасіў да шчырай, даверлівай размовы па вызначанай тэме, каб адказаць на два асноўныя пытанні: што павінны зрабіць Пастаянная камісія па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу і парламент, каб дапамагчы Міністэрству адукацыі і ўсёй адукацыйнай сістэме ў вырашэнні праблем, якія стаяць перад беларускай адукацыяй, і як акрэсліць у праекце Закона аб унясенні змен у Закон аб адукацыі праблему сацыяльнай абароненасці педагогаў. І такая зацікаўленая размова на сустрэчы адбылася.

Міністр адукацыі Васіль Стражаў па просьбе старшыні парламенцкай камісіі расказаў пра тое, з якіх спраў складаецца паўсядзённая дзейнасць Міністэрства адукацыі, скіраваная на тое, каб забяспечыць функцыянаванне адукацыйнай сістэмы і яе развіццё. У сістэме адукацыі, зазначыў міністр, адбываюцца працэсы, якія не заўсёды асэнсоўваюцца насельніцтвам. Што маецца на ўвазе? Перш за ўсё тое, што наша грамадства перайшло да масавай вышэйшай адукацыі. За апошнія сорак гадоў колькасць студэнтаў у Беларусі павялічылася ў пяць разоў і складае амаль 290 тысяч. Гэта міністр назваў “зусім новым этапам у развіцці грамадства”, але насельніцтва пакуль што яшчэ не ўсвядоміла такую перамену. Па колькасці студэнтаў і навучэнцаў наша краіна ўваходзіць у першую дзесятку краін свету. Спасылаючыся на высновы, зробленыя у 90-х гадах на сусветных адукацыйных форумах, В.І.Стражаў падкрэсліў, што адукацыя становіцца вызначальным фактарам у развіцці грамадства ў XXI стагоддзі.

Што да перамен у прафесійнай, сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай школе і да паступовых змен у дашкольнай адукацыі, то, як і ў сярэдняй агульнаадукацыйнай школе, рэформа тут мае эвалюцыйны характар. Чаму пачалася трансфармацыя сістэмы прафесійна-тэхнічнай падрыхтоўкі? Адказваючы на гэта пытанне, міністр звярнуў увагу парламентарыяў на тое, што ўсе краіны імкнуцца да таго, каб разам з прафесіяй дзеці атрымлівалі і адукацыю, якая давала б магчымасць вучыцца далей. Савецкі Саюз першым пайшоў па гэтым шляху. У ПТВ можна атрымаць не толькі прафесію, але і сярэднюю адукацыю. Пераход да стварэння ў сістэме прафтэхадукацыі ліцэяў і каледжаў замацоўвае гэтую тэндэнцыю. “Гэта заўтрашні дзень сусветнай сістэмы прафтэхадукацыі”, — сказаў В.І.Стражаў. І Беларусь ужо ідзе гэтым шляхам. Адзінае, чаго не хапае, — належнага матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння.

Гаворачы пра сістэму сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, міністр зазначыў, што ў сённяшнім сваім выглядзе яна ўжо нежыццяздольная. Таму і пачалося яе рэфармаванне, у якім тры асноўныя накірункі: арганізацыя каледжаў (яны маюць вучэбныя планы, інтэграваныя з ВНУ), арганізацыя вышэйшых каледжаў (ноу-хау беларускай сістэмы адукацыі: наш вопыт пераймаюць ужо Расія і Украіна, што таксама пераконвае ў правільнасці выбранага шляху) і ўключэнне ССНУ (каледжаў) у ВНУ ў якасці структурных адзінак — за два бліжэйшыя гады, сказаў В.І.Стражаў, “мы пакажам эфектыўнасць развіцця такой сістэмы сярэдняй спецыяльнай адукацыі”.

Многа коп’яў было зламана ў апошнія гады ў дыскусіях пра шляхі рэформы сярэдняй агульнаадукацыйнай школы. Хаця пра стратэгію і праграму школьных перамен неаднаразова і ў друку, і па радыё, і па тэлебачанні давалася шырокая інфармацыя, яна, аднак, і дагэтуль не ўсімі асэнсавана. Галоўны “камень спатыкнення” — пераход да 12-гадовай школы. Не ўсе, на жаль, усвядомілі ключавое пытанне для любой рэформы: што з’яўляецца абавязковай адукацыяй? А гэта не толькі змест, але і тэрмін абавязковага навучання. Сутнасць структурных перамен у нашай сярэдняй агульнаадукацыйнай школе ў тым, што адбываецца пераход да абавязковай дзесяцігадовай адукацыі. Рэформа школы закране фактычна толькі тых дзяцей, якія нарадзіліся ў 1992 годзе і пазней. Усе дзеці, якія пайшлі ў школу ў 1998 годзе, у 2002 годзе будуць займацца пяць дзён у тыдзень (шосты дзень будзе прысвечаны фізкультурна-аздараўленчай і выхаваўчай рабоце) — менавіта тады насельніцтва і “ўбачыць” рэальны ход рэформы.

Розныя стартавыя магчымасці для дзяцей, незалежна ад матэрыяльнай забяспечанасці бацькоў, на думку В.І.Стражава, забяспечвае даступнасць дашкольнай адукацыі. І таму вельмі крыўдна, што работнікі дзіцячых дашкольных устаноў атрымліваюць такую малую зарплату. Менавіта па гэтай прычыне высокая цякучасць кадраў у дашкольных установах.

Жыццё вымагае паглядзець інакш на праблему роўнасці правоў у атрыманні вышэйшай адукацыі, таму што ёсць аб’ектыўныя адрозненні ва ўзроўні падрыхтоўкі гарадскіх і сельскіх дзяцей. Што ўжо зрабіла для вырашэння гэтай праблемы Міністэрства адукацыі? Уведзены раздзельны конкурс паміж выпускнікамі гарадскіх і сельскіх школ, а таксама мэтавы прыём. “Гэта сацыяльна арыентаваная дзяржаўная палітыка”, — сказаў В.І.Стражаў. У краіне праводзіцца эксперымент па тэсціраванні, мэта якога — адмена выпускных і ўступных экзаменаў. На эксперымент адведзена восем-дзесяць гадоў, бо гэта не механічная акцыя, а працэс, які звязаны з арганізацыяй навучання. Спачатку будзе ажыццяўляцца паступовы пераход да абавязковага тэсціравання ў базавай школе, а пасля — тэсціраванне выпускнікоў. Міністр прыгадаў Еўрапейскую дэкларацыю, якая абавязвае да 2008 года перавесці ўсе ВНУ на чатырохгадовы тэрмін навучання. Але гэта магчыма толькі пры 12-гадовай сярэдняй школе, пераход да якой у нас пачаўся.

Выступленне В.І.Стражава было выслухана з вялікай увагай. У дэпутатаў і сенатараў узнік шэраг пытанняў, на якія адказалі міністр, намеснік міністра Г.Д.Дылян, а таксама начальнікі ўпраўленняў Міністэрства адукацыі Л.І.Субоцкая і Т.М.Карасцялёва. Напрыклад, на пытанне, чаму ў недзяржаўных ВНУ высокая і неаднолькавая плата за навучанне, быў дадзены адказ, што міністэрства ведае гэтую праблему і робіць захады па яе вырашэнні. Распрацаваны дакумент, у якім прадугледжваюцца роўныя для ўсіх умовы аплаты за навучанне ў недзяржаўных ВНУ. Гэты дакумент узгоднены ва ўстаноўленым парадку і цяпер знаходзіцца ў Міністэрстве юстыцыі. Ставілася і пытанне аб вучэбнай перагрузцы вучняў. Слушнасць у гэтым пытанні ёсць. Міністр растлумачыў, што вучэбныя планы ўзгадняюцца ў Міністэрстве аховы здароўя, так што па колькасці гадзін праблемы няма. А што да вучэбных праграм, то па большасці прадметаў праблема перагрузкі ўжо знята, але па некаторых прадметах яе яшчэ трэба вырашаць.

Многія выступоўцы закранулі змест праекта новай рэдакцыі Закона аб адукацыі. В.І.Стражаў патлумачыў, што праект, які знаходзіцца ў парламенце, быў прадстаўлены паўтара года назад, і таму, зразумела, узнікла патрэба ў пэўных удакладненнях. А калі ўвогуле гаварыць пра прапанаваную новую рэдакцыю Закона аб адукацыі, то гэта кампраміс паміж некалькімі міністэрствамі. Адносна зарплаты настаўніка ў праекце зроблены запіс, каб сярэдні заробак настаўніка адпавядаў сярэдняму заробку работнікаў прамысловасці.

Прагучала на сустрэчы і такое пытанне: “Чаму на ТБ спынены тэлеўрокі?” Намеснік міністра Г.Д.Дылян зазначыў, што з Міністэрствам адукацыі гэта рашэнне не ўзгаднялася. Увогуле ж фінансаванне тэлеўрокаў абыходзіцца, як кажуць, у добрую капеечку. На жаль, па прычыне неплацежаздольнасці мясцовых органаў улады відэафільмы, як і кнігі, не выкупляюцца...

Абвострана было сказана на сустрэчы і пра культуру беларускай мовы на тэлебачанні. В.І.Стражаў зазначыў, што гэта праблема найперш Міністэрства культуры. А што да беларускай мовы ва ўстановах адукацыі, то ў Міністэрстве адукацыі распрацавана праграма па прыкметным пашырэнні сферы ўжывання беларускай мовы на ўсіх адукацыйных ступенях. Гэтай праграме трэба даць “пуцёўку ў жыццё”. Спыталі ў міністра і пра тое, якія яшчэ законы ў сферы адукацыі распрацоўваюцца ў міністэрстве. Адказ быў такі: гэта законы аб вышэйшай і прафесійна-тэхнічнай адукацыі. “Мы рухаемся наперад, хаця і без спешкі, але ў правільным накірунку”, — падкрэсліў міністр.

Узяла слова на сустрэчы парламентарыяў з кіраўнікамі Міністэрства адукацыі і старшыня Цэнтральнага Камітэта прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Т.І.Чобатава. Становішча, якое склалася з зарплатай і фінансаваннем адукацыі, сказала яна, “мяжуе з крытычнай рысай”. Настаўнік атрымлівае такую зарплату, што не здольны забяспечыць спажывецкія патрэбнасці нават аднаго чалавека. Таму ў агульнаадукацыйнай школе цяпер вельмі вострая кадравая праблема. Не павінна так быць, падкрэсліла прафсаюзны лідэр, каб настаўнік жыў горш, чым чалавек любой рабочай прафесіі. Парламенцкай камісіі трэба грунтоўна папрацаваць над дапаўненнямі і змяненнямі ў Законе аб адукацыі. Неабходны не проста словы ў падтрымку настаўніка, зазначыла Т.І.Чобатава, а канкрэтныя практычныя дзеянні па паляпшэнні яго матэрыяльнага становішча. Нам з міністрам адукацыі ўдалося многае зрабіць за апошнія шэсць гадоў па павышэнні статуса работнікаў адукацыі, але праблем яшчэ многа. “Парламент можа і павінен дапамагчы Міністэрству адукацыі ў іх вырашэнні”, — рэзюміравала Т.І.Чобатава.

ПАДСУМОЎВАЮЧЫ вынікі зацікаўленай, вострай, канструктыўнай размовы на сустрэчы, старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу І.В.Катляроў зазначыў, што ўсе надзённыя пытанні адукацыйнай палітыкі камісія будзе вырашаць з Міністэрствам адукацыі і ў цесным кантакце з галіновым прафсаюзам. “Мы заўсёды будзем падтрымліваць адукацыю”, — гэтыя словы І.В.Катлярова даюць надзею на вырашэнне надзённых праблем, якія хвалююць усё настаўніцтва нашай краіны.

**Алег КУЛІЦКІ.**

Віншуем!

## Не месца ўпрыгожвае чалавека...

***Успомніўся гэты трапны выраз з народнай мудрасці, калі даведаўся, што педагог са Слоніма В.І.Галубоўскі — адзіны кіраўнік гуртка тэхнічнай творчасці ў сістэме прафтэхадукацыі нашай Беларусі, якому прысвоена ганаровае званне Заслужанага рацыяналізатара рэспублікі. Ва Указе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі адзначаецца, што гэтага звання ён удастоены за шматгадовую рацыяналізатарскую дзейнасць, актыўны ўдзел у працоўным выхаванні навучэнцаў і далучэнні іх да тэхнічнай творчасці.***

***Нядаўна вядомы педагог быў запрошаны ў Мінск, дзе ў Доме ўрада атрымаў нагрудны знак і пасведчанне аб прысваенні высокага звання. Ад імя Прэзідэнта і па яго даручэнню ўзнагароду ўручыў прэм’ер-міністр У.В.Ярмошын і шчыра павіншаваў Вячаслава Іосіфавіча.***

Амаль 33 гады Вячаслаў Галубоўскі працуе на ніве педагогікі. Пачынаў выкладчыкам фізікі ў школе, 19-ы год узначальвае гурток тэхнічнай творчасці ў Слонімскім сельскагаспадарчым прафесіянальным ліцэі (былое ПТВ-189). Іменна тут найбольш праявіліся наватарскія здольнасці чалавека творчай думкі, аб чым сведчаць канкрэтныя факты.

Два гады назад у Маскве ва Усерасійскім выставачным цэнтры праходзіў міжнародны фестываль “Навукова-тэхнічны пошук — пакаленню XXI стагоддзя”. Былі там і прадстаўнікі Слонімскага ліцэя. Групу навучэнцаў узначальваў Вячаслаў Іосіфавіч, а дэманстраваўся на выставе кампрэсар шматмэтавага прызначэння. Невялікі, універсальны, просты і надзейны ў эксплуатацыі, гэты складаны механізм прыцягнуў увагу наведвальнікаў, бо яго могуць выкарыстоўваць і рамонтнікі, і аўтатранспартнікі. Дэманструемы механізм высока ацанілі. Вячаславу Іосіфавічу было прысвоена званне лаўрэата міжнароднага фестывалю, там жа ён атрымаў і медаль УВЦ.

Гэта не адзіная ўзнагарода з Масквы. В.І.Галубоўскі тройчы быў удзельнікам ВДНГ СССР, адзначаны бронзавым і сярэбраным медалямі гэтай славутай выставы.

Выхаванцы гуртка тэхнічнай творчасці ліцэя ўдзельнічалі ў чацвёртым рэспубліканскім злёце рацыяналізатараў і вынаходнікаў, дзе заваявалі першае месца сярод прадстаўнікоў прафтэхвучылішчаў і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў Беларусі. Гурткоўцы, якіх выхоўваў і выхоўвае В.І.Галубоўскі, заваёўвалі прызы і дыпломы, атрымлівалі медалі выстаў, адзначаліся прэзідэнцкай прэміяй у намінацыі “Таленавітая моладзь”.

Высокі прафесіяналізм ўдумлівага наватара праявіўся і пры вырабе кампактнай устаноўкі для апрацоўкі зерня грэчкі, бо такіх ці падобных агрэгатаў няма на Слонімшчыне, ды і ў іншых раёнах Беларусі.

Нядаўна праходзіла абласная выстава тэхнічнай творчасці сістэмы прафтэхадукацыі. Слонімскі ліцэй заваяваў першынство. І ў Мінску каманда наватара Галубоўскага зноў вызначылася.

Не будзем пералічваць шматлікія перамогі і здабыткі гуртка тэхнічнай творчасці ліцэя, у якіх пульсуе прафесіяналізм, знаходлівасць яго кіраўніка. Аб шырыні творчай думкі Вячаслава Іосіфавіча сведчыць лічба: за тры дзесяцігоддзі ён распрацаваў і ўкараніў у вытворчасць 215 рацыяналізатарскіх прапаноў. Гэтыя распрацоўкі накіраваны на паляпшэнне ўмоў працы і тэхнікі бяспекі, садзейнічаюць эканоміі грашовых сродкаў, электраэнергіі, матэрыялаў.

Вядомы наватар узначальвае пярвічную арганізацыю Беларускага таварыства вынаходнікаў і рацыяналізатараў ліцэя, ён аказвае значную дапамогу маладым, пачынаючым наватарам. Распрацоўкі рацыяналізатара, як адзначаюць спецыялісты, вызначаюцца належным эстэтычным выглядам, тэхнічнай арыгінальнасцю, эканамічнай эфектыўнасцю.

Здабыткі і дасягненні наватара неаднаразова адзначаліся граматамі і дыпломамі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і рэспубліканскага савета таварыства вынаходнікаў і рацыяналізатараў, іншых ведамстваў. І ўрэшце — самая высокая ўзнагарода ад Прэзідэнта: ён прысвоіў педагогу і наватару ганаровае званне “Заслужаны рацыяналізатар Рэспублікі Беларусь”. Гэта адзнака за працоўнае навучанне і далучэнне падлеткаў да тэхнічнай творчасці, гэта адзнака асабістых наватарскіх здабыткаў Вячаслава Іосіфавіча.

Крочце ж і далей такім шляхам, Заслужаны рацыяналізатар! Няхай не згасаюць вашы наватарства і прафесіяналізм у новым стагоддзі.

**Сяргей ПРАСНЯК.**
Слонім.



## Аўтографы пісьменніка

***Арыгінальную форму ганаравання літаратараў у дзень іх нараджэння адшукала праўленне Саюза беларускіх пісьменнікаў.***

А чаму б не рабіць гэта ў выглядзе ўрока, на які запрашаць вучнёўскую моладзь і “віноўнікаў” асабліва для празаіка ці паэта гэтага дня? Як паведаміў сакратар Саюза беларускіх пісьменнікаў Навум Гальпяровіч, менавіта падобнае і стала звычайнай практыкай, асабліва ў дачыненні да пісьменнікаў, якія пішуць для дзяцей і юнацтва.

На гэты раз у чытальнай зале бібліятэкі Дома літаратара на ўрок беларускай літаратуры прыйшлі вучні сярэдніх школ сталіцы №№ 42 і 160. Урок быў прымеркаваны да 60-годдзя вядомага беларускага дзіцячага пісьменніка Міхася Зарэмбы. Міхась Мікалаевіч запрасіў, так бы мовіць, у асістэнты-памочнікі паэтаў Міколу Чарняўскага, Уладзіміра Марука, Яўгена Каршукова, перакладчка з балгарскай мовы Уладзіміра Анісковіча, дарэчы, які, як і юбіляр, родам з Лагойшчыны, адкуль бруіцца Гайна.

Кароценькая прадмова паэта Навума Гальпяровіча адразу задала належны тон. Прысутнасць “жывых” пісьменнікаў зрабіла ўрок больш цікавым і змястоўным. Так, перакладчык Уладзімір Аніськовіч і паэт Уладзімір Марук, якія пэўны час працавалі з юбілярам у выдавецтве “Юнацтва”, расказалі вучням пра адметную творчую лабараторыю празаіка — пра ўласцівы яму скрупулёзны пошук тэмы, слова, пра багатую пісьменніцкую фантазію. Яны спыніліся на драматычнай аповесці “Магнітная бура”, адной з апошніх кніг М.Зарэмбы “Арэхавы Спас” — раздзеле “Дагані сваё маленства”.

Вядомы паэт Мікола Чарняўскі звярнуў увагу аўдыторыі як расказам пра творчасць М.Зарэмбы, так і дэкламацыяй уласных вершаў. Асаблівы поспех выпаў на яго верш “Камар на матацыкле”.

Вучні былі пасвячоны ў сакрэты творчай лабараторыі і са слоў Міхася Мікалаевіча. Ён засяродзіў увагу вучняў аповядам, як ён працаваў над аповесцю “Здань у храме святой наіўнасці”, якая друкуецца ў маладзёжным часопісе “Маладосць”.

Настаўнікі сярэдняй школы № 42 Яўген Рагавенка і Ірына Булат, якія прывялі ў пісьменніцкі дом два класы васьмікласнікаў, зазначылі, што ўрокі такога кшталту разнастаяць вучэбна-выхаваўчы працэс.

Міхась Зарэмба ў гэты дзень даў аўтографы шматлікім прыхільнікам сваёй творчасці.

**Наш кар.**

Што паказаў эксперымент

## ТВВЗ у педагогіцы будучага

***Мы ў дзіцячым садку № 45 Брэста для навучання і развіцця дзяцей пачалі прымяняць элементы методыкі тэорыі вырашэння вынаходніцкіх задач (ТВВЗ).***

На першым этапе нашага эксперыменту выхавацелі прайшлі падрыхтоўку на курсах па ТВВЗ. Каб працаваць па гэтай методыцы, педагогу неабходна самому пераадолець стандарты мыслення, а таксама змяніць характар узаемадзеяння выхавацеля і дзяцей, што аказалася дастаткова складана. Для змянення характару ўзаемін мы, па-першае, пастараліся замяніць негатыўныя ацэнкі і заўвагі накшталт “не бегай”, “не шумі”, “не бяры гэтую цацку” пазітыўнымі “вазьмі, што табе падабаецца, і пагуляй”, “можа ты памалюеш”; матываваць забароны: “Гэтай цацкай цяпер няма калі займацца, таму што мы ідзём на прагулку, возьмеш яе пазней”. Дзеці таксама не давалі адзін аднаму адмоўных ацэнак. У групе не было мянушак і абзыванняў. У хлопчыкаў амаль не было боек. Канфлікты паміж дзецьмі “дазваляліся” аб’ектыўныя — крыўдзіцелю рэкамендавалася перапрашаць у прынятай форме ў пакрыўджанага ім і пры гэтым глядзець у вочы. Паміж супрацоўнікамі групы, дзецьмі і бацькамі склаліся цёплыя, даверлівыя, эмацыянальна блізкія адносіны. Атмасфера ў групе была набліжана да сямейнай. Дзеці дзяліліся з выхавацелямі сваімі перажываннямі і праблемамі.

Адначасова з работай па змяненні характару ўзаемадзеяння ў групе выхавацелямі былі выраблены неабходныя дапаможнікі па методыцы ТВВЗ: “чароўны экран” (дзевяціэкранная сістэма таленавітага падыходу), “сумка мастака” (стужкавы апаратар), фантакола, набор картак да гульні “Маленькія чалавечкі”.

Найбольш інтэнсіўна метады ТВВЗ прымяняліся ў наступных відах дзейнасці: маляванні, развіцці маўлення, азнаямленні з навакольным светам. Быў складзены перспектыўны план выкарыстання элементаў ТВВЗ на занятках у адпаведнасці з тэматыкай работы па тыднях.

Работу па ТВВЗ мы распачалі з гульні “На што падобна?”, з гульні з кропкай, лініяй, з заняткаў па маляванні “Чароўны кружок”, “Чароўны квадрат”. Дзеці прыдумвалі шмат варыянтаў выкарыстання геаметрычных фігур, дамалёўвалі неабходныя элементы для атрымання розных вобразаў. Напрыклад, пры правядзенні гульні “На што падобна?” дзецям была прапанавана фігура-кружок з прымаляванай унізе палачкай. Дзеці зрабілі наступныя параўнанні: чалавек, шарык, дарожны знак, святлафор, кветка, цукерка на палачцы. Фігуру, якая нагадвала васьмёрку, дзеці параўналі з такімі прадметамі, як матрошка, арэх, шчыліна для ключа, неваляшка, спіна, гітара, шарык, спінка сядзення, ванна, лямпа.

У “Чароўным кружку”, які з’яўляецца авалам, дзеці ўбачылі і дамалявалі наступныя прадметы: чарапаху, дзяўчынку, паліцэйскую машыну, рыбу, ката, самалёт, зайца, мышку. Потым дзецям былі прапанаваны спалучэнні і элементы геаметрычных фігур. Тут быў сапраўдны ўсплеск дзіцячай фантазіі. Многія малюнкі былі незвычайнымі і нечаканымі для выхавацеляў. Напрыклад, дуга ў адным малюнку стала грыбам, у другім — хаткай на курыных ножках для мышкі, у трэцім — часткай вясёлкі, у чацвёртым — часткай упрыгожанага шарыка. Авал з кругам наверсе адным дзецям нагадваў птушку, другім — ляльку, трэцім — паветраныя шарыкі.

У далейшым мы ўвялі элементы ТВВЗ у заняткі па развіцці маўлення і азнаямленні з навакольным светам, выкарыстоўваючы праграму Л.М.Курбатавай “Умка”. Аднак пастаноўка задач і пытанняў была такой незвычайнай, што дзеці напачатку адчувалі цяжкасці, проста маўчалі. Вядучую ролю на занятках адыгрываў выхавацель, наводзячы дзяцей пытаннямі на розныя варыянты вырашэння, падахвочваючы шукаць і знаходзіць шлях вырашэння праблем, не даючы пры гэтым гатовага адказу. З прапанаваных у “Умцы” заняткаў мы выкарыстоўвалі фрагменты, скарачалі працягласць заняткаў, таму што ад напружанай разумовай працы дзеці вельмі стамляліся, не заўсёды дапамагалі і фізкультмінуткі. Паступова вылучаліся дзеці з больш гібкім мысленнем, яркім уяўленнем. Часта гэта былі дзеці, якія дагэтуль не вызначаліся ў штодзённым жыцці групы. Яны сталі выказваца на занятках. Бачачы, што нават самыя незвычайныя адказы сустракаюць адабрэнне выхавацеля, сталі больш актыўнымі і іншыя дзеці. Бар’ер стандартаў стаў пераадольвацца.

Для развіцця мыслення неабходным этапам выкарыстання методыкі ТВВЗ стала работа з загадкамі. Дзеці даволі лёгка засвоілі алгарытм складання загадак па прынцыпу падабенства-адрознення. На занятках яны складалі загадкі пра розныя прадметы, з’явы і жывых істот. Складанне загадак патрабуе ад дзяцей тонкай назіральнасці, аналізу прадметаў і з’яў, параўнання іх па розных параметрах, трапнага выбару прыкметы для ўключэння ў загадку. Напрыклад, пра мядзведзя дзеці прыдумалі такую загадку:

Карычневы, але не воўк,
Круглыя вушкі, але не мышка.
Тоўсты, але не слон.
Усю зіму спіць.

Цікавыя загадкі і пра нежывыя прадметы: “Скача, але не зайчык, круціцца, але не кола” (мяч). “Ходзіць, але не чалавек, круглы, але не мячык” (гадзіннік).

Для развіцця ўяўлення і зняцця інерцыі мыслення мы выкарыстоўвалі работу з казкай. Гэта цікавая і шырокая галіна работы па ТВВЗ. Дзейнасць у гэтым кірунку была праведзена паэтапна. Спачатку мы далі дзецям запас ведаў — “начытвалі” казкі. Гутарылі з дзецьмі пра казкі, характарызавалі герояў, вылучылі чарадзействы, чароўныя прадметы і словы. Потым, на другім этапе, дзецям прапанавалі прыдумаць казку па вядомым пачатку. Гэта выклікала пэўныя цяжкасці ў дзяцей. І зноў на першы план выступіў выхавацель: ён дапамагаў дзецям, “наводзіў” іх на пошукі варыянтаў. У гэтай рабоце была выкарыстана на практыцы тэорыя Л.Выгоцкага пра “зону бліжэйшага развіцця”. Па меры асваення гэтай дзейнасці ўяўленне дзяцей працавала ўсё актыўней. У абстаноўцы безумоўнага адабрэння выхавацеля дзеці адчулі сябе больш вольна, перасталі абмяжоўваць сваю фантазію. У далейшым яны лёгка прыдумвалі казкі і па іншых прынцыпах: па прапанаваных цацках, наборы малюнкаў, па піктаграмах, відазмянялі ўжо знаёмыя казкі.

Дзеці камбінавалі свае ўяўленні і атрымлівалі новыя ўзоры і сітуацыі.

Для развіцця ў дашкольнікаў лагічнага мыслення намі была выкарыстана “дзевяціэкранная сістэма таленавітага падыходу”. Гэты наглядны дапаможнік увасабляе ў даступнай для дзяцей форме філасофскія паняцці прасторы і часу. Дзеці яго ведаюць як “чароўны экран”. Гэтая сістэма забяспечвае разгляд дзецьмі аб’екта ў змяненні яго ў часе і прасторы, спасціжэнне на практыцы прынцыпаў дыялектычнага мыслення.

Для развіцця здольнасцей дзяцей да нагляднага мадэлявання мы выкарысталі метад “маленькіх чалавечкаў”. З дапамогай гэтага метаду дзеці мадэлююць і засвойваюць пабудову рэчываў і прадметаў, змяненне агрэгатнага стану рэчываў. Перш чым мадэляваць што-небудзь з дапамогай картак, дзеці паказваюць гэта пантамімай. Такім чынам, нагляднае мысленне падмацоўваецца работай розных органаў пачуццяў.

Для развіцця творчасці ў дзяцей прымяняем элементы ТВВЗ у выяўленчай дзейнасці. Прапаноўвалі дзецям зрабіць малюнкі ў стылі кубізму, абстракцыянізму, выкарыстоўвалі пальцавы жывапіс, маляванне па сырым слаі, раздзьмуванне праз трубачку кропель фарбы, маляванне з дапамогай трафарэтаў геаметрычных фігур. Дзеці намалявалі фантастычных жывёлін, чароўную кветку з раздзьмутай па лісце кроплі фарбы, зімовыя ўзоры на шкле з дапамогай нітачкі. Асенні настрой перадаваўся з дапамогай колеравых плям. Шырока выкарыстоўваўся калаж — спалучэнне аплікацыі і малявання.

Своеасаблівай кульмінацыяй работы па тэхналогіі ТВВЗ сталі заняткі на тэму “Дзіцячы садок”, праведзеныя Н.В.Філюк для выхавацеляў Ленінскага раёна горада. Дзеці прдэманстравалі значную свабоду ад стандартаў мыслення, фантазію, без абмежаванняў і скаванасці выказвалі свае меркаванні, нестарндартна вырашалі супярэчнасці, што не магло быць дасягнута пры рабоце па традыцыйнай методыцы. Напрыклад, пры правядзенні гульні “Добра — дрэнна” на пытанне “Што дрэннага ў дзіцячым садку?” дзеці адказалі: “Раніцай рана ўставаць, днём трэба спаць, есці прымушаюць”. Пры выкарыстанні прыёму фантастычнага адмаўлення “Што было б, калі б работнікі дзетсада не прыйшлі на працу?” быў атрыманы такі варыянт адказу: “Іх пасадзяць у турму”.

Такім чынам, праведзенае даследаванне дае падставы сцвярджаць, што ТВВЗ — гэта тэхналогія дашкольнай педагогікі новага стагоддзя.

**Наталля МУШЫНСКАЯ,
выхавацель дзіцячага сада № 45
Брэста.**

